Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

12—18 снежня 1998 года
№ 76 (156)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 2000 руб.
Цана ў розніцу — 3000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

ІВАЦЭВІЧЫ

## Мы — аб мове і культуры

Змястоўна і цікава прайшоў тыдзень беларускай мовы, культуры і друку ў сярэдняй школе № 4. Цэлы шэраг мерапрыемстваў правялі са сваімі вучнямі настаўнікі роднай мовы і літаратуры: віктарыну, прысвечаную А. Міцкевічу, выставу беларускамоўных газет, насценгазет і малюнкаў на тэму "Беларусь — мая Радзіма", брэйн-рынг, конкурс-гульню "Скарбы роднага краю". У рамках тыдня адбылася сустрэча з прадстаўнікамі раённай прэсы.

"Газету для вас" прадстаўляў карэспандэнт А. Горбач. У размове з вучнямі, арганізаванай у актавай зале школы, супрацоўнік нашага выдання вёў гутарку аб тым, як цяпер ствараецца газета, расказаў аб непасрэднай рабоце свайго выдання, аб адносінах да прынцыпаў дзяржаўнага будаўніцтва, аб тых дэбатах, якія сёння вядуцца аб роднай мове.

## Нешчаслівая пасада

З падарункамі і падзякамі правялі на пенсію работнікі райвыканкама свайго старшыню Пятра Георгіевіча Жышку, які пасля інсульта стаў інвалідам. Ад імя прадпрыемстваў і гаспадарак яму былі ўручаны каштоўныя падарункі, у тым ліку халадзільнік і тэлевізар. Для кожнага работніка райвыканкама провады на пенсію старшыні абышліся ў суму вышэй за 50 тысячаў рублёў.

Гавораць, на провадах нехта зазначыў, што старшынёўская пасада ў Івацэвічах нешчаслівая. Сапраўды, в. а. старшыні райвыканкама І. М. Чырко, які заступіў да выканання гэтых абавязкаў пасля П. Г. Жышкі, праз некаторы час аказаўся на бальнічным пожку ў абласной бальніцы. Адным словам, райвыканкаму не шанцуе!

## Маньяк. Хто ён?

Аб тым, што ў Івацэвічах аб'явіўся маньяк, ніхто не сумняваецца. Пацярпелі дзве жанчыны. Калі ім прадставілі падобнага па іх словах мужчыну, то адна сказала — ён, а другая — не.

А на днях на дзвярах магазіна № 10, што ў паўночным мікрараёне райцэнтра, паявіўся фотаробат маньяка. Як кажуць сведкі, на выгляд прыстойны мужчына, пры гальштуку. Аднак у РАУС сказалі, што ў міліцыі фотаробата не стварылі. Хто, дзе яго стварыў і з якой мэтай — невядома. У галаву ў сувязі з гэтым прыходзіць адна думка: нехта спрабуе трымаць горад у страху...

## А злодзеі гошчаўскія

У вёсках зараз шмат дамоў стаіць пустых. І не дзіва: паміраюць старыя людзі. Застаецца ў кватэрах нейкая маёмасць. Злодзеі і ёю не грэбуюць.

Так здарылася і ў Гошчаве па вуліцы Школьнай. У кватэру былога дырэктара Гошчаўскай СШ, ветэрана вайны і працы М. В. Банасевіча, які памёр летась, улезлі няпрошаныя госці. Выцягнулі адтуль каляровы тэлевізар, тэлефонны апарат, некалькі слоікаў з варэннем.

Хто ж мог залезці ў пустую кватэру? Аказваецца, у Гошчаве ёсць свае, дамарошчаныя злодзеі, для якіх няма нічога святога. Пабываўшы на месцы крадзяжу, работнікі міліцыі адразу ж знайшлі сляды. І па іх дайшлі да хат Яўгена Еўтуха і Дзмітрыя Карачуна. У гэтых гошчаўцаў і забралі ўкрадзеныя рэчы з кватэры Банасевіча. Абодва злодзеі непаўналетнія, працуюць у мясцовым калгасе імя Леніна.

Дарэчы, Еўтуху і Карачуну не першы раз прыходзіцца ўдзельнічаць у падобных "аперацыях". Так, за крадзёж буракоў у калгасе яны былі асуджаны да аднаго года ўмоўна. Тэрмін гэты яшчэ не выйшаў, таму зараз наступае крымінальная адказнасць за паўторны крадзёж. Ужо ўмоўнага тэрміну для злодзеяў не будзе.

НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

## КОНКУРС "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"

*АЛЕКСАНДРА. 16 лет, учусь в школе, интересы самые разные. Очень нравится популярная сегодня группа "Руки вверх". Любимый актер — Брюс Уиллис. Надеюсь хорошо закончить школу.*

**ОТ РЕДАКЦИИ. Конкурс "Самая обаятельная и привлекательная", в котором в нынешнем году смогли принять участие наши самые фотогеничные, очаровательные читательницы из Ивацевич, Березы, Баранович, подходит к своему завершению. Чтобы определить победительницу, мы, сотрудники "Газеты для вас", обращаемся к вашей помощи, уважаемые читатели. Звоните нам по редакционному телефону 2-12-29 или пишите письма, сообщите — кто из 25 участниц более всех заслуживает стать победительницей конкурса. Подведение итогов, вручение приза и интервью с самой обаятельной и привлекательной участницей в новогоднем номере. Желаем успеха.**

БАРАНОВИЧИ

## О правах поговорили...

Поговорить о правах человека собрались участники региональной научно-практической конференции "Всеобщая декларация прав человека на рубеже XX—XXI веков", которая проводилась в актовом зале педколледжа 3 декабря. Мероприятие было приурочено к юбилею всеобщей декларации прав человека, который отмечается 10 декабря.

Выступающие рассказали о правах человека в нашей республике и других странах, коснулись исторических вопросов. "По данным социологических исследований, около 70% жителей республики не имеют даже представления о своих правах", — заметила в своем выступлении И. В. Кошелева, старший преподаватель педколледжа.

В это же время в учебном заведении города проводились уроки по правам человека, обсуждались вопросы жизни и смерти, войны и мира.

*Інфармацыйны выпуск "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. ЦАЛУЙКА, С. КАЖАДУБ, А. ГОРБАЧ (Івацэвічы), С. РУСЕЦКІ (Бяроза), М. КУЛІКОВА (Баранавічы).*

БЯРОЗА

## Жывы голас паэтэсы

У гарадскім Доме культуры Бярозы адбыўся святочны вечар, прысвечаны 55-годдзю вядомай беларускай паэткі Ніны Мацяш. З невялічкага гарадка Белаазёрска, дзе яна жыве, яе голас гучыць на ўсю Беларусь. Гэта тым больш дзіўна і цудоўна, што Ніна Мацяш рухаецца на калясцы, мае абмежаваныя магчымасці для зносін з людзьмі. Тым не менш, яна не страціла любві да жыцця і актыўна ў ім удзельнічае.

Яна выдала больш за 10 паэтычных зборнікаў. Яе пераклады з французскай, нямецкай, польскай, харвацкай, галандскай, балгарскай моваў добра вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі. Яна — аўтар музыкі на некаторыя свае вершы. Дарэчы, гораду, у якім яна жыве, паэтка прысвяціла "Песню аб Белаазёрску" (музыку да яе напісала выкладчыца Белаазёрскай музычнай школы Ганна Федасюк).

У ГДК паэтку віншавалі з днём нараджэння сябры, шматлікія паклоннікі яе таленту, прадстаўнікі грамадскасці з Бярозы, Брэста і Мінска, журналісты і паэты.

## З рук збылі...

Чарговы аўкцыён па продажу аб'ектаў камунальнай маёмасці адбыўся ў Бярозаўскім райвыканкаме. На таргі быў выстаўлены маёмасны комплекс былой ваеннай часці і яе лазня, будынак былой сталоўкі ПМК-25 агульнай плошчай каля 5 тысяч квадратных метраў.

Цікава, што таргі праводзіліся па метаду зніжэння пачатковай цаны. Яна была ўстаноўлена ў суме 20 мільярдаў рублёў. Прадалі будынкі за 2 мільярды рублёў. Такі бізнес зрабіў райвыканкам. Застаецца толькі спадзявацца, што прадпрымальнікі, якія набылі будынкі, давядуць іх, як гавораць, да толку і зробяць так, каб яны служылі людзям.

## Цукар у Белаазёрску ёсць!

І не толькі. У свабодным продажы тут ёсць яйкі, сметанковае масла. Але не спяшайцеся, дарагія нашы чытачы, імчацца за кіламетраў 50—100 у Белаазёрск. Нормы продажу тут таксама абмежаваныя. Цукар даюць па 1 кг на рукі, яйкі — па 1 дзесятку, сметанковае масла — па пачцы.

Затое чэргаў і таўкатні няма. А гэта цяпер — вялікае дасягненне!

## Прывабная прапанова

На мінулым тыдні завод мінералаватных вырабаў, што ўваходзіць у дзяржаўнае прадпрыемства "Бярозабудматэрыялы", наведалі прадстаўнікі адной са славенскіх фірмаў (Славенія — адна з дзяржаў, што паўсталі на месцы былой Югаславіі, і мае адзін з найлепшых эканамічных паказчыкаў сярод краінаў Усходняй Еўропы). Госці прапанавалі прафінансаваць (сумесна з банкам з Аўстрыі і ўрадавай структурай Беларусі) пастаўку і ўстаноўку на прадпрыемстве сваёй лініі па вытворчасці мінеральнай ваты і вырабаў з яе. Прадукцыя па сваёй якасці і экалагічных паказчыках можа канкурыраваць на заходніх рынках. Праўда, кошт лініі значна большы, чым падобны аналаг італьянскай. Таму, магчыма, у недалёкім будучым міністэрствам (нагадаем, што прадпрыемства дзяржаўнае) будзе аб'яўлены тэндар (конкурс) на лепшыя ўмовы пастаўкі высокатэхналагічнага абсталявання.

## Не спяшаюцца

Раённая арганізацыя Беларускага народнага фронту "Адраджэнне" падала заяву ў выканкам на правядзенне 13 снежня пікету салідарнасці з палітзняволенымі, прымеркаванага да 50-годдзя прыняцця "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека". З адказам улады як заўсёды затрымліваюцца, парушаючы тэрміны, што ўстаноўленыя прэзідэнцкім законам.

## Усё вяртаецца "на кругі свае"

У свой час сённяшні прэзідэнт, будучы дэпутатам і кандыдатам у прэзідэнты, гучна, у тым ліку па тэлебачанні, крытыкаваў эканамічну палітыку прэм'ерміністра Вячэслава Кебіча. Сёння ж ідзе амаль поўны паўтор таго, што было пры "дорогом Вячеславе Францевиче". Трохразовае рэальнае змяншэнне за год заробкаў зноў прымушае многіх бярозаўцаў, каб хоць трохі папоўніць свой сямейны бюджэт, скупляць харчаванне ў крамах усё па тых жа "датаваных дзяржавай" цэнах і, усяляк хаваючы яго ад мытнікаў, везці за межы. Маштабы гэтага "патоку", напэўна, яшчэ не дасягнулі "кебічаўскіх" памераў, але аповеды тых, хто ўжо паспрабаваў "лёгкіх" заробкаў, заахвочваюць усё новых добраахвотнікаў. Для праверак прыцягваецца ўсё большае кола кантралёраў і міліцыі. Усе пры справе.

# ПАВАЖАНЫЯ ПАДПІСЧЫКІ!

**Да канца падпіскі на "ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС" засталося два тыдні. Не забудзьце завітаць у аддзяленне сувязі і падпісацца на незалежную газету. У ёй Вы прачытаеце аб'ектыўную інфармацыю, тое, што ніколі не надрукуюць афіцыйныя выданні. Заставайцеся з намі!**

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Ствараецца рэспубліканскі забастовачны камітэт

*Ініцыятыўная група, куды ўвайшлі актывісты рабочага руху шэрага прадпрыемстваў Беларусі, аб'явіла аб рашэнні стварыць рэспубліканскі забастовачны камітэт. "Ужо відавочна ўсім, што наша краіна коціцца ў эканамічную бездань", — гаворыцца ў адпаведнай заяве прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы. Яны лічаць, што прымусіць уладу "павярнуцца тварам да народа можа толькі дакладна спланаванае доўгатэрміновае грамадскае супраціўленне".*

Пад заявай ініцыятыўнай групы стаяць подпісы старшыні Рабочага Саюза С. Антончыка, заснавальніка Незалежнага прафсаюза гарнякоў І. Юргевіча, старшыні Барысаўскай рэгіянальнай арганізацыі Канфедэрацыі працы Беларусі С. Каленіка і іншых актывістаў рабочага руху — усяго 83 подпісы.

## Неабходна закупіць за мяжой звыш 300 тысяч тон харчовай пшаніцы

*Для поўнага задавальнення патрэбнасцей Беларусі ў пшанічнай муцэ неабходна закупіць за мяжой звыш 300 тысяч тон харчовай пшаніцы, што адпавядае леташнім аб'ёмам імпарту збожжа. Пра гэта заявіў намеснік старшыні камітэта па хлебапрадуктах Рэспублікі Беларусь Леанід Крыжаноўскі на прэс-канферэнцыі ў Мінску.*

Па яго словах, штогод Беларусь спажывае каля 500 тысяч тон харчовай пшаніцы. З-за неспрыяльнага надвор'я ў гэтым годзе ў краіне сабрана толькі 194,9 тысячы тон пшаніцы пры плане 350 тысяч тон. На закупку збожжа за мяжой выдзелены валютны крэдыт у памеры 14 мільёнаў долараў ЗША. На дадзены момант заключаны кантракты на пастаўку ў краіну 163,5 тысячы тон пшаніцы.

Па інфармацыі Л. Крыжаноўскага, рэспубліка нарыхтавала 676,8 тысячы тон жыта пры плане 850 тысяч тон.

Камітэт па хлебапрадуктах унёс прапанову ў Міністэрства эканомікі аб павышэнні цэн на хлебабулачныя вырабы з адначасовай выплатай кампенсацыі маламаёмным слаям насельніцтва. Цяпер рэнтабельнасць прадпрыемстваў галіны складае ўсяго 5,4 працэнта, а выпуск найбольш папулярных гатункаў хлеба з-за адміністрацыйнага рэгулявання цэн з'яўляецца стратным. У прыватнасці, сабекошт аднаго батона вагой 500 грам роўны 16 тысячам беларускіх рублёў, у той час як у магазінах ён прадаецца па 9—10 тысяч рублёў.

## Будзем разлічвацца купюрамі большай вартасці

*Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у абарачэнне з 1 снежня гэтага года разліковы білет вартасцю 500000 рублёў.*

Ен выраблены на белай паперы з ахоўнымі валокнамі чырвонага і жоўтага колераў. У паперы ўтрымліваецца ахоўная празрыстая ніць з мікратэкстам "НБ РБ". На шырокім купонным полі размешчаны вадзяны знак — відарыс Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў. А што датычыць колеру купюры, то пераважае жоўтыя і вішнёвы.

## "Маладая Беларусь" аб'ядналася

*Дэмакратычная моладзь аб'ядналася ў рух "Маладая Беларусь".*

У Беларусі створаны маладзёжны рух "Маладая Беларусь". Пра гэта 4 снежня на сумеснай прэс-канферэнцыі абвясцілі лідэры "Маладой Грамады", "Грамадзянскага форуму" і "Маладога фронту".

Па словах удзельнікаў прэс-канферэнцыі, аб'яднанне дэмакратычнай моладзі стала адказам на стварэнне Беларускага народна-патрыятычнага саюза і спробай прадэманстраваць палітыкам старэйшага пакалення, што маладзёжныя арганізацыі, у адрозненне ад іх, "здольныя адступіць ад карпаратыўных інтарэсаў і ўласных амбіцыяў" і аб'яднацца для дасягнення адзінай мэты. У выпадку правядзення ў Беларусі дэмакратычных выбараў прадстаўнікі руху будуць выступаць на іх адзіным блокам.

(БелаПАН).

РЕАЛИИ ДНЯ

# Экономику Беларуси, вероятно, ожидает очередной нокдаун

В 1998 году экономика Беларуси получила два сокрушительных удара со стороны России.

Первый был в марте. Тогда массовая продажа белорусских ценных бумаг российскими держателями вызвала финансовый кризис в Беларуси. Курс доллара за неделю вырос на 27 процентов. Александр Лукашенко обвинил в случившемся российских олигархов.

Вторым ударом стала волна августовского российского финансового кризиса. Паралич банковской системы привел к сокращению объема производства реального сектора экономики России в сентябре—октябре на 51 процент. Завязанные на Россию промышленные предприятия Беларуси свертывают производство или работают на склад. По оценкам экспертов, падение производства в Беларуси будет продолжаться до конца первого квартала 1999 года темпами 6—12 процентов в месяц.

Вероятность очередного, третьего удара по экономике Беларуси обусловлена многовариантностью реализации Стабилизационной программы России. Первый вице-премьер России Юрий Маслюков видит два варианта: оптимистический — если международные финансовые организации выделят кредиты, тогда в 1999 году темп инфляции составит 30 процентов; пессимистический — если кредитов не будет, темп инфляции достигнет 300 процентов.

Лидер КПРФ Геннадий Зюганов считает, что "в случае неудачи программы" к власти придут военные. Их основной задачей станет "усмирение разъяренных масс". По всем сценариям развития событий объемы промышленного производства в Беларуси при односторонней ориентации на Россию окажутся ниже уровня 1997 года. По предварительным оценкам, в первом варианте они сократятся на 10—15 процентов, во втором — на 30—35 процентов, в третьем произойдет обвал экономики.

*Борис ГУСАКОВ, кандидат экономических наук, БелаПАН.*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

## «Звезды» и грязь

Факты, события, эпизоды. Словно цветные стеклышки пересыпаются они в калейдоскопе времени, складываясь иногда в такой неповторимый узор, что взглянув на него, невольно содрогнешься от увиденного...

Эпизод первый. Недавний, многократно показанный по телевидению, широко обсуждаемый в прессе, а потому известный всем. Речь идет, конечно же, о видном деятеле российской «патриотической» оппозиции генерале Макашове, который публично, на митингах, позволил себе бросить антисемитский призыв «Бей жидов!» И не смущает его, что на дворе конец XX века, а не начало, когда еврейские погромы практиковались вовсю. Не совсем понятна также последовавшая вслед за этим оценка данных призывов российской Думой.

Эпизод второй. Давний, малоизвестный и уже забытый. Великая Отечественная война. В Березе, как и в других городах со значительным числом еврейского населения, было сооружено гетто. Туда сгонялись все евреи, от мала до велика. Основным критерием отбора кандидатов служила национальность. Дальнейшая судьба обитателей гетто ни у кого не вызывала сомнений – смерть.

Живет в городе обычная семья, не еврейская. Муж, жена, шестеро детей. И есть у них одна знакомая – еврейская девушка, которую ожидает участь всех ее соплеменников.Чтобы спасти эту девушку, муж уходит жить к ней. Она не выходит из дома, при малейшей опасности прячется в диване. Беда вроде бы минует этот дом. Но однажды сюда врываются гестаповцы. Какая-то сволочь узнала обо всем и донесла.

На следующий день по улицам города по направлению к старому кладбищу – месту расстрелов — движется процессия: он, избитый и окровавленный, лежащий на крестьянской подводе; она, молоденькая еврейка, шагающая рядом с этой подводой; вооруженные немцы...

Вслед за ними была расстреляна и его семья: жена и дети.

Не хочу быть судьей, давать оценки, делать какие-то выводы, ибо каждому воздастся по делам его. Вот только стоят ли звезды на генеральских погонах «патриота» Макашова грязи с сапог Человека, лежавшего на окруженной немцами телеге?

*Н. СИНКЕВИЧ.*

*г. Береза.*

РЭПЛІКА

## Калі імчыць картэж...



Глядзіш па тэлебачанні, як мноства вышэйшых кіраўнікоў дзяржавы, выконваючы найвышэйшае распараджэнне, з вялікімі картэжамі суправаджэння з абласнога, раённага ды мясцовага начальства, міліцыі і аховы, ездзяць па прадпрыемствах, калгасах і саўгасах у аддаленых кутках Беларусі, каб патлумачыць людзям, чаму пры такіх поспехах у эканоміцы мы жывём усё горш. Безумоўна, добра, што прэм'ер-міністр ці кіраўнік дзяржгандлю краіны асабіста пачуе ад механізатара, рабочага ці даяркі аб іх праблемах.

Але ж паняволі ўзнікае думка, што грошай, патрачаных на гэтую паездку-картэж, хапіла б, каб ліквідаваць усю запазычанасць таго ж калгаса. Ды хіба да нейкіх там падлікаў, калі пастаўлена такая важная задача!

*С. РУСЕЦКІ,*

*г. Бяроза.*

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА



## «Да бяды – адзін крок»

Так называўся матэрыял, які быў змешчаны ў № 72 нашай газеты за гэты год. У ім гаварылася аб тым, што аўтазаправачныя станцыі №4 і №5, якія знаходзяцца на процілеглых баках на трасе Брэст-Мінск, раздзелены адна ад другой жалезнай бар'ернай агароджай. Калектыў у абедзвюх АЗС адзін, адзін і кіраўнік. Каб зайсці з адной заправачнай на другую, трэба пералазіць праз тыя бар'еры. Гэта стварае не толькі нязручнасці, але і небяспеч для жыцця, бо побач праносіцца транспарт.

На скаргу калектыву АЗС №4 і №5 прарэагаваў генеральны дырэктар рэспубліканскага дзяржаўнага вытворчага прадпрыемства «Белаўтастрада» М. Ю. Пільчук. Адказ падрабязны, але ні ў якім разе не адпюстроўвае стан спраў на месцы, бо ніхто тую скаргу не правяраў. Такім чынам, можна смела сказаць, што зверху проста адпісаліся, каб больш не чапляліся. Відаць, у «Белаўтастрадзе» кіраўніцтва хвалюе больш стан трасы, а не ўмовы працы людзей. Паспрабуем разабрацца.

«Пры будаўніцтве аўтадарогі яе асноўныя тэхнічныя параметры былі запраектаваны зыходзячы з хуткасці руху транспарту 120 кіламетраў у гадзіну...» На той жа трасе хуткасць руху абмежавана не толькі перад пастамі ДАІ, але ж і перад запраўленымі станцыямі. Стаяць патрэбныя знакі. Значыць, ніяк не можа быць праектная хуткасць 120 кіламетраў у гадзіну, як тлумачыцца ў адказе.

Далей. «Зыходзячы з патрабаванняў бяспекі руху і дзеючых у рэспубліцы нарматыўных дакументаў, гэтыя пункты (маецца на ўвазе АЗС – рэд.) устройваюцца з абодвух бакоў аўтадарогі».

Правільна піша М. Ю. Пільчук. Для вадзіцеляў, без сумнення, гэта зручна і выгадна.

«Пералік аказваемых імі паслуг (пунктамі сэрвісу) аналагічны як справа, так і злева, што выключае неабходнасць перасячэння раздзяляльнай паласы як транспартам, так і пешаходамі. Каб пазбегнуць несанкцыянаванага перасячэння раздзяляльнай паласы і ўстаноўлена бар'ерная агароджа».

Усё, здаецца, напісана правільна. Праяўляецца клопат аб бяспецы руху транспарту і нечаканых пешаходаў. Ніхто не падумаў пра работнікаў АЗС, што яны не робаты, а жывыя людзі і могуць перамяшчацца ад адной станцыі да другой па вытворчых справах.

Ніхто з вышэйшых чыноўнікаў не заглянуў у праект будаўніцтва, зацверджаны Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Там, па праекце, быў праход, і доўгі час ён не перашкаджаў руху транспарту, а з нядаўняга часу чамусьці стаў бяльмом на вачах. Прыехалі, заварылі той пераход і клопаты з плеч.

Вось такія думкі выклікае адпіска з прадпрыемства «Белаўтастрада».

Клопат пра людзей, іх умовы працы, аказваецца, мала цікавяць і малых, і вялікіх чыноўнікаў.

З ЗАЛЫ СУДА

# ЦІ СТАНЕ ПАКАРАННЕ ЎРОКАМ?



1.

Двое маладых хлопцаў у жалезнай клетцы ў зале суда. Сядзелі, апусціўшы галовы на працягу двух дзён, — пакуль доўжыўся судовы працэс. Аб чым яны думалі ў гэтыя мінуты і гадзіны? Можа ўспаміналі свае нядаўнія ўчынкі ў Івацэвічах і Косаве? Хто ведае. Не заглянеш у душу чалавека, нават у вочы, калі ён не падымае галавы. Ці то ад сораму, ці то ад бязвыхаднасці становішча, калі надзеі на добры зыход не прадбачыцца? Хто яны гэтыя хлопцы, як і за што трапілі яны на лаву падсудных?

Пазнаёмімся: Дзмітрый Шупенік і Іван Лабастаў, жыхары Івацэвічаў. Першаму — 21 год, другому — 17. Дзмітрый мае сярэднюю адукацыю, прайшоў службу ў арміі. Летам уладкаваўся на працу ў фірму "Віват". Рос і выхоўваўся абодвума бацькамі. Іван закончыў толькі 9 класаў, вучыцца далей у школе не схацеў, паступіў на вучобу ў ПТВ-162. Жыў з маці. Бацька ў свой час пакінуў сям'ю.

Дзмітрый і Іван пасябравалі больш года таму. Разам хадзілі на дыскатэкі, разам спраўлялі дні нараджэння і розныя святы. Словам, свабодны час бавілі ўдвух.

Усё пачалося 23 верасня. Шупенік і Лабастаў надумалі паехаць на дыскатэку ў Косава. Відаць, аднастайныя і шумныя дыскатэкі ў гарадскім Доме культуры райцэнтра надакучылі хлопцам, і яны імкнуліся пазнаёміцца з вечарамі адпачынку моладзі ў іншых населеных пунктах раёна. Варта напомніць, што зусім нядаўна візіт трох маладых людзей з Івацэвічаў у вёску Заполле (таксама на танцы) закончыўся трагічна. Не хацелася б праводзіць паралель паміж тым, што адбылося летам у Заполлі і восенню ў Косаве, але ў гэтых двух выпадках было фізічнае насілле над людзьмі, якое прынесла горыч і боль пацярпеўшым, іх родным і блізкім.

— У той дзень я прыйшоў на кватэру да Лабастава, рынёс бутэльку гарэлкі, — распавядаў Шупенік. — Распілі яе. Затым вырашылі паехаць на танцы ў Косава. Пайшлі шукаць транспарт, але не знайшлі. Па вуліцы Дэпутацкай убачылі матацыкл "Мінскі", вырашылі яго забраць...

Аднак аднаго матацыкла для хлопцаў аказалася недастаткова, і на другі дзень яны ўкралі яшчэ і другі па вуліцы 70 год Кастрычніка. Поўным ходам ішла падрыхтоўка новых паездак. 25 верасня на двух матацыклах нашы кавалеры паімчаліся з Івацэвічаў у Косава. Але гарадскім візіцёрам там не пашанцавала: дыскатэкі не было. Што рабіць далей? Рашылі адзначыць сваю паездку. Зайшлі ў мясцовае кафэ. Як самі прызналіся, пілі з нейкімі касаўчанамі, маўляў, паўбутэлькі выйшла на брата. Калі закончылі, было каля апоўначы. На добрым падпітку, але ж асядлалі хлопцы жалезныя коні і паехалі. Вось тут і пачаліся прыгоды юных матацыклістаў.

2.

У канцы г. Косава, непадалёк ад касцёла, матацыклы заглохлі. Пахісталі бакі — пустыя. А да дому — 15 кіламетраў. Гадзіна ночы. Усе жыхары спяць. Дзе ўзяць таго бензіну?

— Пойдзем у вучэбна-вытворчы камбінат, — прапанаваў Шупенік. — Я там вучыўся. Павінны што-небудзь здабыць...

Узялі бачок і пайшлі ў той камбінат. У старожцы разбудзілі вартаўніка Міраноўскага. Папрасілі ў яго бензіну, каб даехаць дамоў, як быццам прапаноўвалі грошы. Міраноўскі адказаў, што бензіну ў баках машын няма. Шупенік і Лабастаў не паверылі і накіраваліся да гаража. Паспрабавалі ўлезці туды праз дзверы, аднак як ні стараліся, а ўзламаць дзверы не змаглі. Тады асмялеўшыя хлопцы зайшлі з другога боку гаража і пачалі адрываць дошкі, каб папасці ўнутр. Вось тут вартаўнік Міраноўскі не вытрымаў і пачаў лаяцца на няпрошаных гасцей. І яны ў сваю чаргу не засталіся ў даўгу і пачалі калаціць вартаўніка. А калі той стаў уцякаць, дагналі, збілі з ног і прымусілі вярнуцца да гаража і лезці разам з імі ўнутр. Там не знайшлі гаручага і вылезлі адтуль ні з чым. Пабіты вартаўнік Міраноўскі застаўся ў сваёй старожцы, а кавалеры рушылі далей у пошуках бензіну.

Пры разбіральніцтве гэтага моманту справы ні Міраноўскі, ні Шупенік і Лабастаў чамусьці дакладна не помняць (вось так падводзіць памяць!), як усё адбывалася. Хто першы ўдарыў, чым біў — кулакамі ці нагамі. Нават пацярпеўшы Міраноўскі. Відаць, яму не балелі тыя сінякі і шышкі і нават выбіты зуб. Канешне, гэта яго асабістая справа. А можа і не?

А калі б здарылася горшае, няўжо той жа Міраноўскі выгароджваў бы юных выпівох і вымагальнікаў, якія з дапамогай кулакоў у тую вераснёўскую ноч вялі пошукі гаручага для матацыклаў? Адказаць на пастаўленае пытанне зусім не цяжка. Вядома ж, вартаўніку Міраноўскаму. Відаць, яшчэ і тое, чаму ён не патэлефанаваў у міліцыю пасля таго, як яго пакалацілі незнаёмцы на ахоўваемай ім тэрыторыі. Можа таму, што прасілі не званіць або гразіліся. Першае прагучала ў прызнанні, а другое... А сказаць другое не хапіла мужчынскай смеласці. Баязлівасць перамагла.

3.

Прыгоды івацэвіцкіх кавалераў працягваліся. Той жа Міраноўскі параіў пайсці на мэблевае прадпрыемства, што зусім недалёка. Растлумачыў: хацеў хутчэй пазбавіцца ад хуліганаў. І хлопцы паспяшаліся туды.

На прахадной — нікога. Толькі тэлефон на стале. Нядоўга думаючы, нож з кішэні — і тэлефон "адключан". Цяпер можна смела падавацца ў пошукі бензіну.

На тэрыторыі МВА нечакана сустрэлі вартаўніка.

— Вы чаго сюды завіталі? — спытаў Самсонік.

— Нам трэба бензін, каб даехаць у Івацэвічы, — з патрабаваннем у голасе сказалі хлопцы.

— Няма бензіну, — адказаў Самсонік. — Ужо ноч і вам неабходна пакінуць тэрыторыю.

Аднак незнаёмцы не паслухаліся і пайшлі да трактароў, што стаялі паблізу. Самсонік увесь час прапаноўваў хлопцам неадкладна пайсці адсюль. Але яны і слухаць не хацелі, шарылі па трактарах, нешта тарахцелі, а потым сказалі, што нацадзілі з паўлітра таго бензіну. Хоць мала, а ўсё ж ёсць! На прахадной не спыніліся, выйшлі за агароджу. І тут нечакана для Самсоніка адзін з тых аматараў-матацыклістаў, а іменна Лабастаў, выхапіў нож і ўдарыў вартаўніку ў жывот. Відаць, гэта была "плата" за тое, што выганяў іх з тэрыторыі МВА. Вартаўнік схапіўся за жывот і павольна асеў на зямлю. У гэты момант ён змог яшчэ крыкнуць: "Марта, вазьмі!"

Марта — гэта Самсонікава аўчарка, якая разам з вартаўніком была на дзяжурстве і хадзіла следам за ім, калі ён рабіў абход тэрыторыі мэблевага прадпрыемства. Аднойчы на прахадной яна спыніла дырэктара МВА, і тады ён загадаў, каб сабака быў у намордніку, бо можа знянацку і ўкусіць каго. З таго часу, калі Самсонік браў з сабой Марту, то надзяваў ёй наморднік. І на гэты раз яна была ў намордніку.

4.

Марта, пачуўшы загад гаспадара, адразу рванулася з месца і накінулася на бліжэйшага да яе "ворага" (а гэта быў Шупенік), збіла яго з ног і... Гэта шчасце было для Шупеніка, што Марта аказалася ў намордніку. Яшчэ невядома, чым бы закончыўся гэты паядынак для хлопца.

Усё ж Шупенік неяк вывернуўся з-пад Марты, выхапіў з кішэні нож і па самую ручку ўсадзіў сабацы ў грудзіну. Калі тая завішчала і асела на зямлю, Шупенік падняўся, падышоў да Самсоніка, які яшчэ не мог падняцца і корчыўся ад болю і ўдарыў яго некалькі разоў у твар. Той зноў паваліўся на зямлю. Вартаўнік не змог дакладна сказаць, як біў яго хлопец ці яны абодва —кулакамі або нагамі...

Ачомаўшыся ад udараў, Самсонік падняўся і, трымаючыся абедзвюма рукамі за жывот, зайшоў у прахадную, каб пазваніць. Ён яшчэ не рашыў, куды тэлефанаваць, але кабель ад тэлефона аказаўся адрэзаным. Толькі тады Самсонік заўважыў, што рукі яго ў крыві. Ці то ад болю, ці ад убачанай крыві вартаўнік разгубіўся, не ведаючы, як дзейнічаць далей, і ўрэшце, пакінуўшы службу, падаўся дахаты. Жонка пазваніла начальніку аховы, а ўжо той — у міліцыю. Адначасова выклікалі хуткую дапамогу, і Самсоніка адразу забралі ў бальніцу, дзе тэрмінова зрабілі аперацыю.

5.

На судзе ўзнікла пытанне: дзе Шупенік і Лабастаў узялі нажы. Гэта ж халодная зброя. Па-першае, чым абрэзалі тэлефонны кабель? Падсудныя паказалі, што нож знайшлі там жа, на прахадной. Дапусцім, што там быў нож. Самсонік пацвердзіў, што той невялічкі ножык і сёння ляжыць у скрыначцы і выкарыстоўваецца вартаўнікамі для бытавых патрэб, напрыклад, у час абеду ці вячэры. Можна дапусціць, што гэтым ножыкам перарэзалі кабель. Па-другое, каб пырнуць Самсоніка і зарэзаць яго аўчарку Марту, патрэбен быў не ножык, а добры нож. Такія нажы знаходзіліся ў кішэнях Шупеніка і Лабастава. Іх было два, а не адзін.

Успомнім, як усё адбылося. Лабастаў пырнуў нажом Самсоніка і тут жа Марта па загаду гаспадара накінулася на Шупеніка. Лабастаў ніяк не мог перадаць нож свайму сябруку, бо ўсё здарылася вельмі хутка. Дый той жа Лабастаў не адмаўляў, што пасля ўдару Самсоніка ён склаў свой нож і паклаў у кішэню. З гэтага вынікае, што хлопцы ехалі ў Косава, маючы ў кішэнях нажы. Для чаго? На гэта пытанне ўжо дадзены адказ у вышэйапісаным эпізодзе.

6.

У выніку разбойных дзеянняў Шупеніка і Лабастава вартаўнік Самсонік аказаўся на аперацыйным стале. На яго выздараўленне спатрэбіўся месяц. 12 чалавек з Косава здавалі кроў, каб падтрымаць здароўе пацярпеўшага.

Вартаўнік Міраноўскі з Касаўскага вучэбна-вытворчага камбіната з-за пабояў, нанесеных яму шукальнікамі бензіну, цэлы тыдзень знаходзіўся на бальнічным рэжыме.

Абодва пацярпеўшыя лячыліся, не былі на рабоце. І гэта за кошт дзяржавы. Чаму ж так? Той, хто такое натварыў, а іменна Шупенік і Лабастаў, павінны пакрываць матэрыяльныя страты, а не дзяржава. У тым ліку і за забітую аўчарку Марту. Думаю, што немалых грошай яна каштавала гаспадару.

Дарэчы, пра забітага сабаку. Самсонікаву аўчарку знайшлі за метраў 50 ад месца схваткі, у траве, у намордніку і з распоратай грудзінай. Яе цягнулі туды маладыя забойцы, як сказалі сведкі, за вуха і ашыйнік.

Як бачым, забітую аўчарку тыя смелыя хлопцы забралі ад прахадной, баючыся, відаць, пакідаць на людным месцы. А вось пра ледзь жывога вартаўніка Самсоніка ніхто з іх не пацікавіўся. У якім ён стане? Ці жывы яшчэ? На добрым падпітку яны адчувалі сябе пераможцамі, героямі ночы. Пападзіся яшчэ хто-небудзь на іхнім шляху, наўрад ці застаўся б жывым.

Адкуль такая жорсткасць? Гэтае пытанне задала падсудным адна з засядацеляў. Але адказу не атрымала. А я дадаў бы: адкуль такая звярыная жорсткасць, нечалавечая нянавісць да ўсяго жывога дзеля сваіх уласных патрэб? У такіх выпадках, як правіла, хочацца даведацца, у якіх жа сем'ях выхоўваліся гэтыя маладыя людзі і, наогул, ці выхоўваліся. Можа найпершыя бацькоўскія абавязкі адышлі на задні план?

У сям'і Лабастава бацька пайшоў з дому. Гэта, відаць, адна з прычын таго, што сын, яшчэ не дасягнуўшы паўналецця, стаў занадта самастойным. Мог дома распіваць спіртное з сябрамі, мог дамоў прыходзіць у нецвярозым стане. І гэта ўсё сыходзіла яму з рук. Маці чамусьці лічыла, што яе непаўналетні сынок нічога дрэннага не робіць. Ну, крыху захапляецца выпіўкамі...

Пра сям'ю Шупенікаў нічога дрэннага на судзе не гаварылася, як быццам знешне ў ёй усё добра. Відаць, і выпіўкі сына з непаўналетнімі, і шастанне па начах, калі ўсе спяць, лічылі дробяззю. Нават па паводзінах Шупенікавых бацькоў на судзе можна зрабіць вывад, што і судзіць хлопцаў няма за што, маўляў, іншыя мільярды крадуць і нічога.

Што ж, у кожнага чалавека свае паняцце вінаватасці і адказнасці за ўчыненае злачынства ці правапарушэнне.

7.

Пракурор, выступаючы на судзе, прасіў пакараць Шупеніка і Лабастава на восем гадоў турэмнага зняволення кожнага. Каб не было больш панадна нікому. Як жа рашыў суд? У яго прыгаворы запісана: пазбавіць кожнага падсуднага на шэсць гадоў турэмнага зняволення.

Тыя, з кім мне прыходзілася гутарыць, як усё роўна згаварыліся: малое пакаранне. Маўляў, пры такім пакаранні можна красці, біць і рэзаць людзей, атрымліваць невялікія тэрміны зняволення, адбываць іх і зноў брацца за старое. Вось такое меркаванне.

На мой погляд, тут ёсць свая логіка. Паглядзіце яшчэ раз, што натварылі Шупенік і Лабастаў. Па-першае, зрабілі ўгон матацыклаў. А гэтае злачынства зараз караецца даволі строга: ад 5 да 7 гадоў пазбаўлення волі. Калі гэта зроблена паўторна — ад 7 да 10 гадоў.

Па-другое, пабілі вартаўніка Міраноўскага на яго рабочым месцы. Шляхам узлому ўлезлі ў гараж і прымусілі лезці туды вартаўніка.

Па-трэцяе, зайшлі без дазволу ў начны час на ахоўваемую тэрыторыю мэблевага аб'яднання, самавольна злілі з трактара бензін. Парэзалі кабель тэлефоннага апарата. Лабастаў пырнуў вартаўніка нажом у жывот. Шупенік зарэзаў сабаку і потым яшчэ пабіў Самсоніка. Да таго ж, ведаючы, што Лабастаў непаўналетні, Шупенік спайваў яго гарэлкай.

Але як бы там ні было, суд ужо сказаў сваё слова. Можна згаджацца і не згаджацца. Можна радавацца ці абурацца. Ва ўсякім разе кожны па-свойму рэагуе на гэтую падзею. Ясна адно: пакаранне павінна быць самым строгім для злачынцаў, каб у іх назаўсёды адпала ахвота займацца ранейшымі справамі і, відаць, самае галоўнае — каб гэта пакаранне стала урокам і для іх саміх, і для іншых. Ці стане яно такім, пакажа час.

*С. КАЖАДУБ.*

г. Івацэвічы.

# И ЕЩЕ КОЕ-ЧТО О СПИДе



## ЛЮБОВЬ ПРЕКРАСНА. ПОКА БЕЗОПАСНА

Республиканский Центр профилактики СПИДа с 1 по 3 декабря провел для средств массовой информации II республиканский семинар, посвященный проблемам распространения ВИЧ-инфекции на территории нашей республики.

Как мы уже сообщали, корреспондент "Газеты для вас" был приглашен и принял участие в семинаре.

Семинар подвел итоги, огласил результаты одиннадцати месяцев года текущего. Они неутешительны. СПИД продолжает уверенно шагать по нашей республике, и как преградить ему путь неизвестно ни специалистам, ни, тем более, среднему обывателю. После вспышки ВИЧ-инфекции в Светлогорске, подобные проблемы предстали перед иными городами Беларуси: Гомелем, Жлобином, Пинском. Для республики, демографическая ситуация в которой и без того желает быть много лучшей, рост ВИЧ-больных выглядит там более угрожающим, что подавляющее количество инфицированных — молодежь от 16 до 30 лет.

Ирина Зарембовская, Роман Галевич, преподаватели Национального Центра по профилактике СПИДа, на устроенной ими пресс-конференции констатировали тот факт, что открытие пунктов обмена шприцов, раздача презервативов представителям так называемой группы риска, существенно ситуацию не изменили.

— Чем может помочь одноразовый шприц, — рассуждает Р. Галевич, — если наркоман набирает свою порцию из общей, уже зараженной дозы. Наркоманы ведь всегда группируются. И если хотя бы один в их компании окажется ВИЧ-инфицированным, то жди, что через самый небольшой промежуток времени они все окажутся с ВИЧ. Инъекционные наркоманы составляют подавляющее большинство ВИЧ-больных, что, впрочем, не исключает роста передачи инфекции половым путем.

— За рубежом, — продолжила И. Зарембовская, — нашли выход в легальной продаже методона — заменителя наркотика в таблетках. Не могу сказать, насколько возможно применение этих таблеток в нашей республике.

Для убедительности представители инициативной группы провели ролевую игру: все 25 журналистов, закрыв глаза, стали в круг. По условиям игры двум участникам, естественно, не видимым остальными, положили на плечо руку, что обозначало, что они условные ВИЧ-больные. После этого все должны были троекратно пожать друг другу руки, а тот, кто оказался "инфицированным", при этом царапнуть ладонь тому, с кем здоровается. Игра проходила несколько мгновений, но к концу ее количество "инфицированных" из двух выросло до 17.

Такова цепная реакция ВИЧ-инфекции, и, надо признаться, тяжело психологически выдержать царапанье твоей руки вроде бы приятной внешности журналисткой.

На 1 ноября 1998 года количество ВИЧ-инфицированных на Беларуси составило 2257 человек. По данным распространенного на семинаре бюллетеня печальная пальма первенства по-прежнему в Гомельской области и, прежде всего, Светлогорске — 1175 человек.

Далее идут: Минск — 234, Жлобин — 214, Светлогорский р-н — 104, Гомель — 84, Жлобинский р-н — 55, г. п. Октябрьский — 49, Речица — 38, Пинск — 34. В Брестской области количество ВИЧ-инфицированных за последние полгода выросло в три раза. В списке обозначены и Ивацевичи — трое больных. В Березе — 1; в Барановичах — 11. На все мои вопросы прояснить ситуацию с больными нашего региона, определить хотя бы их социальный статус представители ответили категоричным "Нет". Что и не удивительно. Очевидно, что о медицинской этике и врачебной тайне представители центра знают побольше, чем некоторые "врачующие" на местах.

А. ГОРБАЧ.

# Вы ведаеце, як засцерагчыся ад СНІДу?

***За праблемамі эканамічнага характару апошнім часам нашы СМІ неяк менш сталі звяртаць увагу на такія глабальныя праблемы, як СНІД.***

***А тым часам яго паўзучы прывід працягвае распаўсюджвацца па нашай рэспубліцы. Так, у суседнім Пінску колькасць ВІЧ-хворых павялічылася за апошнія паўгода з 6 да 34 чалавек. А ці ведае наш чытач, як перадаецца хвароба? Ці ведае ён, як засцерагчыся ад СНІДу? Вось што адказалі нам на гэтыя пытанні жыхары Івацэвіцкага раёна.***



**Саша** (в. Магіліцы): Нам наркотыкамі захапляцца няма калі. Гэта ў гарадах ад беззабоцця моладзь пускаецца на розную дурасць. А ў вёсцы людзі адпачываюць больш класічна: за бутэлькай добрай гарэлкі. Нашы бацькі жылі без прэзерватываў, без шпрыцоў і не мелі тых праблем, якія мае моладзь сёння. А з-за чаго ўсё? З-за дурной галавы сваёй. Я СНІДу не баюся. Маеш галаву на плячах — будзеш здаровы.



**Марына**: Да распаўсюджвання такой хваробы, як СНІД, канешне, нельга адносіцца легкадумна. Як яна распаўсюджваецца таксама ведаю. Ці баюся? Канешне, баюся! Але, каб не захварэць на СНІД, на мой погляд, трэба весці належны лад жыцця, быць больш асцярожнымі. І менш звяртаць увагу на навамодныя сення "кайфы". Бо калі трапіш у наркатычныя сеткі, то без ВІЧ адтуль не выпутаешся.



**Ігар**: Канешне, усё залежыць ад чалавека. Тое, што хварэе ў асноўным моладзь, дзеці — сімптаматычна. Выйсце, на мой погляд, не толькі ў распаўсюджванні шпрыцоў ці прэзерватываў, а ў распаўсюджванні, прабачце, звычайнага страху сярод моладзі, якога яна, як відаць, не ведае. У нас жа так заўсёды: пакуль гром не грымне, то мужык не перахрысціцца...

**Ад аўтара**: Трэба зазначыць, што наконт распаўсюджвання захворвання на СНІД, наша моладзь "осведомлена" не так ужо і кепска. Што, канешне, вельмі добра. Мы, нарэшце, адышлі ад ханжаства савецкага часу і адкрыта гаворым аб сексе і наркаманіі. Прэзерватывы, аднаразавыя шпрыцы павінны быць даступны моладзі. На жаль, як і ўсе тавары, яны час ад часу даражэюць. Але што можа быць даражэй за жыццё?

Я спецыяльна ў гэтым апытанні не звярнуў увагу суразмоўцаў на магчымасць заразіцца СНІДам у бальніцы. Ад гэтага мы таксама не застрахаваны цяпер. Але гэта — тэма для іншай, вялікай размовы.

*А. МІХАЛЕНКА.*

*г. Івацэвічы.*

# Эта коварная Элеонора...

В маленьком белорусском городе жил-был мальчик Игорь. Мама и бабушка звали его ласково — Игорек, ребята в школе — Игрик. Как и все дети, он любил конфеты, велосипед, видики. Каждое лето Игорь приезжал к бабушке в деревню, если родители не отправляли его в пионерский лагерь.

Бабушка поила его козьим молоком. Белая коза по кличке Катька была очень вредной. Игорь должен был отводить ее утром на луг, а вечером приводить назад. Всю дорогу вела она себя плохо: то упрется и не хочет идти, то на углу хаты дядьки Пети ей нужно пощипать травы или просто посмотреть, что растет за колючей проволокой у бабы Фени. А Игорь спешит, ребята уже давно гоняют мяч возле Кулаковских.

И вдруг Игорь увидел Вику. Она шла от автобуса. "Настоящая красавица!" — подумал Игорь. Осипшим вдруг голосом тихо ответил на ее "Привет!"

Весь день был заполнен впечатлением об этой встрече: как она прошла, улыбнувшись, как он был неловок...

Прошло много лет, не менее 10. Игорь и Вика выросли. Их чувства стали сильными и вполне определенными. Они берегли свою любовь и гордились этим. Никто и дурного слова не мог сказать об их отношениях. Да и в прошлом им не в чем упрекнуть себя. Разве что...

Игорю было стыдно за один-единственный поступок в 16 лет. Это произошло совсем случайно. На свадьбе у двоюродного брата на Украине. С Викой серьезные отношения еще не сложились, а Элеонора только вернулась из Италии, где отдыхала с родителями. Ей было 18 лет, и она была чертовски хороша: темные длинные волосы, высокий лоб, большие "цвета ночи" глаза, яркие выразительные губы, за которыми скрывался острый язычок. Элеонора много и смешно рассказывала об Италии. Просто заслушаешься.

Трудно сейчас сказать, как они оказались на сеновале, и вспоминать об этом не хочется. Элеонора страстно целовалась, Игорь не помнит точно, как она разделась, и он весь задрожал... Раздела и его. Она подтрунивала над ним, дразнила. Желания захлестывали его горячими волнами. Все остальное произошло в каком-то дурманящем угаре.

Игорь обычно старался не вспоминать этот грех, тем более, что прошло целых три года.

Вика с Игорем сыграли свадьбу. Им от завода дали общежитие, потом сами построили квартиру. Приходилось много работать и не удивительно, что Игорь уставал. Он еще не подозревал, что с ним стряслось.

Через месяц после свадьбы его замучило расстройство кишечника, в больницу идти было некогда — подвернулась дополнительная работа. Надо ведь зарабатывать на квартиру.

Вика перепробовала всевозможные травы и таблетки. А враг уже подстерегал Игоря. Он напал на него в ту злосчастную ночь, когда встретился с Элеонорой. Его привезла всезнающая Элеонора из Италии. Игорь тогда не знал, что без презерватива вступать в половые отношения очень опасно.

Элеонора вела развеселую жизнь, колола наркотики: ловила кайф. Никто тогда еще не знал, что она уже заразилась ВИЧ (вирусом иммунодефицита человека).

Впервые страшная догадка обожгла Игоря, когда однажды, на улице, лицом к лицу столкнулся с Элеонорой. Он с трудом узнал ее: ну, прямо старуха, хотя ей только 23 года. Двигалась она медленно, левая рука была неестественно согнута. Глаза потухшие, за толстыми стеклами очков. Игорь остановил Элеонору, но разговора не получилось. Речь ее была заторможена. Что с ней, с красавицей, стало всего за 5 лет!

Зимой у Игоря стала повышаться температура, не надолго, на 2-3 дня. И опять все в норме. Не идти же в больницу из-за такой мелочи. Больше пугали поносы. Он боялся, что это дизентерия: "Еще запрут в инфекционную больницу". От всех обрушившихся на него болячек Игорь похудел. Хотя питались они хорошо. Спустя какое-то время у Игоря на шее, а потом и во рту (или, может, наоборот, он сразу не заметил) появилось темно-багровое пятно. Оно не болело, но слегка выступало во рту, мешало при еде. Через две недели такие же пятна появились под мышкой и в паху. Тогда Вика заставила Игоря идти в поликлинику. Его сразу положили в больницу. Слова лечащего врача звучали как смертельный приговор — это СПИД. Сразу же обследовали Вику — "заражена". Ее тоже положили в больницу. Надеяться, что ребенок, которого они ждали, родится здоровым, не приходилось. Вика плакала днем и ночью.

Приехала бабушка, узнав, что Игорь в больнице. В отделении она долго распаковывала свертки: "Здесь домашняя колбаса, что тебе нравится, а это твой любимый сыр. Кушай, Игорек, только так можно поправиться. Ишь, как исхудал". Она была уверена, что ее внук хороший, аккуратный, не какой-нибудь повеса, не пьяница, не наркоман, не бабник. Значит, заразила Вика, и точка. Баба Маша помнит его с пеленок. Он ни за что не сядет за стол с грязными руками, а в 5 лет даже пил из чашки только там, где ручка, где никто не пьет (значит, там самый чистый краешек чашки). Разве может такой хороший мальчик заразиться СПИДом?



Но Вику больше всего расстраивало не заблуждение бабушки. В воскресенье приходили Виталик с Юрой, они сказали, что умерла Элеонора. Вика знала, что именно она заразила Игоря. Надеяться было не на что. Горю не было конца. Как и ожидали, скоро родился Кирилл. Роды у Вики прошли хорошо. Врачи внимательно наблюдали за малышом. Это был нежный, розовенький, с голубыми глазками и пушком светлых волосиков человек. Он особенно не плакал и вяло сосал грудь. А через четыре месяца умер. Вика не вынесла этого и сбросилась с девятого этажа. Умерла до приезда "скорой".

В воздухе плыла легкая паутина, с криком проносились воробьи, копошились в песочнице ребятишки — шла обычная земная жизнь. А в инфекционном отделении медленно умирал Игорь.

*Л. СОЛОМАХИНА.*

*"СПИД-курьер".*

